 




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

20 чэрвеня 2003 года

№ 25 (426)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну



### Фестываль пачынаецца

МАЛАДЗЕЧНА. Сёння стартуе VII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2003", які адкрыецца ў 21 гадзіну на Цэнтральнай плошчы. Прыхарошаны горад ледзь паспявае сустракаць ўдзельнікаў і гасцей, што спяшаюцца да нас з бліжняга і далёкага замежжа.

**Марына СЛІЖ.**

### Дарогу не забыўся

АШМЯНЫ. 89 хлопчыкаў і дзяўчынак нарадзіліся за 5 месяцаў года ў горадзе. Дзякуючы буслу, што не забыўся сюды дарогу, Ашмяны сталі першым горадам у вобласці па нараджальнасці. Дарэчы, яна значна перавышае смяротнасць, на вечны спачын пайшлі тут з пачатку года 52 чалавекі.

**Марына СЛІЖ.**

### Адпачыць за мяжой

ВАЛОЖЫН. Больш за сто выхаванцаў мясцовай школы-інтэрната пройдуць сёлета аздараўленне за мяжой. Дзяцей прымуць Італія і Ірландыя, куды першую групу хлопчыкаў і дзяўчынак адправілі на аздараўленне яшчэ ў маі

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Расцвітуць сады

АСТРАВЕЦ. Больш за 100 яблынь пасадзілі ў гэтым годзе ў Дайлідскай сярэдняй школе. Набыць саджанцы дапамог кіраўнік фермерскай гаспадаркі "Світанак-Л" **Часлаў Лабачэўскі**. Ён пасадзейнічаў і ў распрацоўцы праекта сада, і ў пасадцы яблынь. Падобныя сады закладзены ў Гудагайскай, Альхоўскай і Кемелішскай сярэдніх школах.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Гасцініца не пустуе

ВІЛЕЙКА. Не мае недахопу ў пастаяльцах мясцовая гасцініца. На сённяшні дзень тут жывуць 65 чалавек, большасць з якіх — камандзіраваныя ў горад спецыялісты, што вядуць газ. Спыняюцца і іншаземцы. Гасцінічныя аднамесныя нумары здымалі да нядаўняга часу палякі, чэхі, амерыканцы.

**Марына СЛІЖ.**

### «Падвялі» хімікаты

МЯДЗЕЛ. На мінулым тыдні работнікі праваахоўных органаў затрымалі галоўнага агранома птушкафабрыкі "Новая зара". Ён абвінавачваецца ў крадзяжы ў красавіку 185 літраў ядахімікатаў на суму звыш за 4 мільёны рублёў. Расследуецца і яшчэ адна аналагічная справа ў адносінах да жыхара вёскі Зані, які спрабаваў збыць няведама як набытыя ядахімікаты.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Каб горад родны прыгажэў

**МАЛАДЗЕЧНА. Прыемна здзівіць гараджан сумеў напярэдадні фестывалю народны майстар Беларусі разьбяр Анатоль Лавор. На ствале старой таполі, што акурат насупраць рэстарана "Маладзечна", ён стварыў манументальную скульптуру дзяўчыны.**

Дрэва ўжо дажывала свой век. І не сёння, дык заўтра, у яго рыхлы, раздвоены ствол, павінна была ўпіцца вострымі зубамі руплівіца-піла. А майстар кінуў сваім вокам і вырашыў падоўжыць яму жыццё. Тыдзень-другі цяжкай, напорыстай працы і на камлі разгалістага дрэва сталі з'яўляцца абрысы дзяўчыны. Высокай, статнай, у нацыянальным уборы і з доўгай, да пояса, касой. "Хто гэта?", – праходзячы міма майстра часта пытаюцца людзі. Анатоль толькі ўсміхаецца, бо сам яшчэ не вырашыў, як назаве свой новы твор. Мо' "Маладачанка", а мо' "Вясна". А да гэтага былі "Алені", "Дзве савы", скульптуры якіх устаноўлены на аўтадарозе Мінск-Маладзечна, работы "Сымон-музыка" і "Лесавік", што ў свой час экспанаваліся ажно на выстаўцы ў Маскве.



Разьбяр Анатоль Лавор ў час працы над скульптурай. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Цяжка пералічыць работы чалавека, які разьбой па дрэве займаецца, можна сказаць, з дзяцінства. А цяга да сякеры і стамескі – ад бацькі, Васіля Іванавіча Лавора, што быў прызнаным майстрам на ўсю акругу. Рабіў зэдлі, мэблю, бочкі, у якіх агуркі і капусту салілі жыхары ўсіх бліжэйшых вёсак, і ніколі не меў адбою ад заказчыкаў. Сын пайшоў далей, з-пад яго рук нараджаюцца скульптуры. Але гэтак жа, як і калісьці бацька, амаль не адпачывае. Лета распісана далёка наперад: трэба паспець закончыць старыя работы, пачараваць над новымі, сустрэцца з аднадумцамі, сябрамі, каб падзяліцца напрацоўкамі і тут жа павучыцца ў іх. Спрыяюць такому абмену вопытам рэспубліканскія і абласныя пленэры, якія маладзечанец Анатоль Лавор стараецца не прапускаць. Бо яны – крыніца натхнення, без якога майстру – як без рук. Прыходзіць яно звычайна позна ўвечары, калі ўвесь горад спіць. У гэтай цішыні быццам па сабе падключаюцца да натхнення яшчэ і ўменне, фантазія, без якой не быць ні адной рабоце.

...У наш таропкі, дзелавы век людзей цяжка чым-небудзь здзівіць. Прывыклі яны да звышгукавых самалётаў, камп'ютэраў, радыётэлефонаў. А вось ля мужчыны, што, узброіўшыся сякерай і стамескай, тры тыдні запар працуе ля рэстарана "Маладзечна", пройдзе, не спыніўшыся, хіба што самы раўнадушны. Кожнаму хочацца ведаць, што за цуд творыць разьбяр і з якой нагоды. Чалавек на слова не скупы, Анатоль Лавор з задавальненнем расказвае пра свой спецыяльны заказ і нават каменціруе ход работ. Маўляў, няхай далучаюцца людзі да мастацтва.

У натоўпе, які штовечар збіраецца ля дрэва, амаль заўсёды стаіць і яго дачка. Сціпаная, задуменная дзяўчынка, якая пільна сочыць за кожным рухам бацькавых рук. Лена пакуль што не спрабавала сябе ў разьбе па дрэве, але лепіць, малюе адмыслова. Бацьку гэта не можа не радаваць: будзе каму перадаць свой вопыт, прадоўжыць справу, якой верна служаць ужо два пакаленні Лавораў.

**Марына СЛІЖ.**

### І ў Сербіі перамаглі



Тэатр лялек "Батлейка" вярнуўся ў Маладзечна з Сербіі са спецыяльным дыпломам.

2-я старонка

### Стрэлкі рушылі



Галоўны гадзіннік Маладзечна на гасцініцы ў цэнтры горада зноў паказвае дакладны час. Расказвае Марына Сліж.

4-я старонка

### Салям алейкум, Беларусь!

Дзевяць стагоддзяў побач з беларусамі і прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей жывуць у нашым краі татары. Аб іх жыцці, традыцыях і звычках піша журналістка Ірына Пашкевіч.

6–7-я старонкі

 

■ ФЕСТЫВАЛЬ

# Перамаглі ў Сербіі

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" атрымаў спецыяльны дыплом за лепшы спектакль на 10-м міжнародным фестывалі тэатраў для дзяцей, які прайшоў у Субоціцы, што ў Сербіі.**

На фестываль з'ехаліся 22 краіны свету. Сярод іх ЗША, Англія, Італія, Германія, Фінляндыя, з былога СССР – Расія, Украіна і Беларусь, якую прадстаўлялі маладзечанцы. Яны паказалі гледачам спектакль рэжысёра Юрыя Сарычава "Меч анёла". Ролі ў ім выканалі Таццяна Чаеўская, Таццяна Паўлючук і Уладзімір Уладыка. Раней гэты спектакль быў тройчы адзначаны на розных фестывалях.



Актрыса Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка", што ў Маладзечне, Таццяна Чаеўская была ўдзельніцай міжнароднага фестывалю ў Сербіі.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Конкурс

Упершыню старшынёй журы быў прадстаўнік Беларусі – галоўны рэжысёр Віцебскага абласнога тэатра "Лялька" Віктар Клімчук. Журы працавала па сістэме закрытага галасавання і галоўным чынам было зарыентаванае на шоу. Запар працавалі тры краіны на розных сцэнічных пляцоўках.

У заходнееўрапейскіх тэатраў шоу атрымлівалася добра. Украінскія, рускія і беларускія акцёры імкнуліся закрануць душу і сэрца чалавека. Гэта ўжо іх адштурхнула ад перамогі. Але нямецкі член журы Олаф Берныштэнгель ацаніў спектакль маладзечанцаў:

— Ён не падобны на іншыя работы. Бачна нацыянальная культура.

Папулярнасцю ў іншаземных артыстаў карыстаўся "Шчаўкунчык" Гофмана. Па матывах гэтага твора было тры спектаклі ў выглядзе таго самага шоу ці канцэртнай праграмы. Наўрад ці рускаму кампазітару Чайкоўскаму, які напісаў да аднайменнага балета музыку, прыйшлося б гэта даспадобы. "Шчаўкунчык" у выкананні артыстаў са Славакіі атрымаў Гран-пры. У спектаклі было 20 шчаўкунчыкаў-лялек у розным выкананні. Гаспадары фестывалю – сербскія акцёры – здзівілі арыгінальным афармленнем сцэны: яна была бялюткай, нават падлога. Сербы выкарысталі ў спектаклі кам'ютэрную графіку. Прыкметна вызначалася сярод акцёраў немка, якая іграла монаспектакль. Нямецкія лялькі былі вельмі маленькімі, амаль што ювелірнай работы.

## Уражанні

Чатыры дні і тры ночы ехалі маладзечанцы ў Сербію і назад. Перасякалі ўкраінскую, румынскую і сербскую граніцы. Бачылі заснежаныя Карпаты, прыпыняліся каля горнай ракі з надзвычай празрыстай вадой. У Сербіі шмат вінаграднікаў. Цяпер там разгар лета. Уразілі вялізныя палі з чырвонымі дзікімі макамі. На іншых палях, не меншых па плошчы, людзі з матыкай у руках абраблялі кукурузу. На румынскіх палях шмат коней, малых і худых. Каровы са званочкамі. Таму паўсюдна чуецца перазвон. А яшчэ ў Румыніі шмат цыганоў.

Тэмпература паветра ўжо ад раніцы +36 градусаў. Але ў фестывальнай Субоціцы яе не так складана пераносіць. Там шмат цяністых вулачак, крыніц, з якіх можна піць.

Велічна выглядае ратуша з гадзіннікамі ў цэнтры горада. Субоціца крыху старэйшая за Маладзечна. Калі ў Югаславіі была вайна, яе тры месяцы бамбілі, шмат гараджан загінула. Адна бомба да гэтай пары ляжыць у возеры ў звярынцы. Між іншым, ён лічыцца лепшым у Еўропе. Там жывуць ламы, сланы, бізоны, белыя паўліны.

Субоціца – своеасаблівы горад. Дамы, зробленыя з каменняў, не вышэй за наш 4 паверх. Усе яны рознакаляровыя. Драўляныя жалюзі знаходзяцца за вокнамі, а шнурок – у хаце. У горных пасяленнях каля кожнага дома стаіць крыж, як ахоўнік для жыхароў сейсмічнай зоны. Нідзе няма гаражоў. Машыны пакідаюць на вуліцах.

Апранаюцца сербы адметна. Жанчыны і мужчыны часцей ходзяць у кароткіх штанах, шортах, джынсах, у плеценых, накшталт саламяных, капелюшах. І ўсё гэта выглядае на дзіва элегантна.

Ядуць сербы вельмі салёнае і вострае мяса. Яшчэ і дадаткова ў асобным посудзе ставяць вострую прыправу. У кафэ сербы ходзяць не столькі паесці, колькі папіць. Чаго было аж зашмат – дык гэта капусты. Ёй карміліі з ранку, і днём, і вечарам. Хлеб – толькі белы, тоўсты, булкі ў паўметра даўжынёй.

Так і прайшоў тыдзень маладзечанцаў у Сербіі. 130 еўра, якія атрымалі ў якасці прыза, па словах дырэктара "Батлейкі" Алы Паляковай, захаваюць для далейшага ўдзелу ў наступных фестывалях. Ужо ў Сербіі іх афіцыйна запрасілі на міжнародны фестываль ва Ужгарадзе, які пройдзе ў наступным годзе. Акцёры ж хацелі б патраціць грошы на аднаўленне спектакля "Пакінуты ўсімі", які таксама можна паказаць на фестывалях.

**Ірына РАБУШКА.**

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Харавік Усевалад Кубаеўскі

У 60-х гадах у Смаргонь прыехаў цікавы харавік Усевалад Кубаеўскі. Ён валодаў школай царкоўнага песнапення, таму адразу ў лепшы бок змяніў манеру гучання хору Дома культуры. Працаваў над творамі без суправаджэння і заўсёды карыстаўся толькі камертонам. Пра хор сталі гаварыць як пра канцэртны калектыў.

Высокі ўзровень сталі паказваць танцоры пад кіраўніцтвам выпускніка Гродзенскага культасветвучылішча Славы Федаровіча.

Прыехаў на працу з Гродна харавік-дырыжор з кансерваторскай адукацыяй Анатоль Гіцэвіч, у якога быў вялікі творчы патэнцыял. Яму прыйшла думка стварыць ансамбль песні і танца, дабавіўшы аркестравую групу.

Першыя рэпетыцыі з аркестрантамі праводзіў Мікола Ходаш. Цяжка яму было кіраваць, бо сам іграў на баяне, а пры рэпетыцыйнай працы, каб збалансаваць гучанне ўсіх інструментаў, трэба, акрамя сябе, чуць іншых.

Перад паездкай створанага ансамбля песні і танца ў Польшчу былі запрошаны для аказання творчай дапамогі выдатныя музыканты з Мінска — харавік-дырыжор Уладзімір Раговіч і кіраўнік аркестра Кастусь Паплаўскі.

У той час я ўжо працаваў у Маладзечне, але мне (як земляку) прапанавалі ігру ў аркестравай групе ансамбля на цымбалах.

Альгерд Апановіч ужо іграў партыю першай прымы, таму мне дасталася другая. У час выступлення без другіх цымбалаў абысціся можна, а без першых – не.

Мне перадалі цэлую папку аркестравых партый і папрасілі хутчэй разабраць і вывучыць на памяць. Усе партытуры былі зробленыя Кастусём Іосіфавічам Паплаўскім, які працаваў з аркестрам у Дзяржаўным хоры разам з Генадзем Іванавічам Цітовічам.

Смаргонскія аркестранты, прыязджаўшыя па сваіх справах, знайшлі мяне ў Маладзечне і спыталі:

— Ну, як? Ці вывучыў свае партыі. Кастусь Іосіфавіч патрабуе, каб ты прыязджаў на рэпетыцыі.

— Ай, — кажу. – Не ведаю, што рабіць. Нейкія партыі абы-што, у галаву не лезуць.

І сапраўды, зусім не тое, каб разагнаўся і малаці да канца. А то так. Некалькі разоў стукнуў, паўзы. Некалькі працяглых нот, зноў паўзы, а потым ніжнія гукі варыяцый. Тут лепш вучыцца на рэпетыцыях, калі ты чуеш, што твае гукі патрэбныя і гучаць.

Нарэшце адпрасіўся з працы і прыехаў у Смаргонь на рэпетыцыю. Настроіў свае цымбалы, абклаўся нотамі і трасуся. Мяне папярэдзілі, што на апошняй рэпетыцыі К.Паплаўскі пытаўся:

— Дзе другі цымбаліст? Партыі яму перадалі?

Былы дырэктар дзіцячай музычнай школы Міхась Адамавіч Жаўрыд, які іграў на скрыпічным кантрабасе, жартам кажа:

— Ён сказаў, што партыі абы-што.

Аркестранты, сярод якіх былі вядомыя скрыпачы Аўрора Леанідаўна Эскіна, Багдан Іосіфавіч Габрыновіч, баяністы Мікола Ходаш, Фёдар Пятрынчык, Віктар Жыткевіч, добра ведалі мой гумар і неяк незнарок разам усміхнуліся. На што тады адрэагаваў К.Паплаўскі і са злосцю сказаў:

— Ну, няхай тады піша сабе сам.

Пачалі іграць. Альгерд іграе, глядзіць па баках, жартуе, а я спрабую асцярожна і зусім лезу не туды.

Нарэшце Кастусь Іосіфавіч спыніў акестр і кажа:

— Вы працуеце ў Маладзечне. Чаму вы там вучыце сваіх вучняў?

Пасля гэтых слоў стала крыўдна, і я падумаў, а навошта мне гэта трэба. Пераносьзаняткі з вучнямі, едзь, працуй над партыямі і ўсё гэта, як кажуць, за так, бо нават простае слова "дзякуй" табе ніхто не казаў. Я ведаў, што на мастацтве ніхто не зарабляў, акрамя кіраўнікоў. Гэта яны ставілі свае ўмовы, таму прыняў тое, як іграў.

Што здарылася на самой справе. Калі аркестр стаў працаваць сумесна з харэаграфічным калектывам, у сваіх пошуках ім давялося нешта падкараціць, павялічыць ці проста памяняць месцамі. Музыканты гэта добра ведалі, зрабілі ў нотах адпаведныя карэктывы, а я іграў тое, што было напісана. Па складанасці такія партыі мог іграць з ліста, але ж трэба было гэтаму здарыцца, сам вінаваты. Кінеш слова, потым пашкадуеш.

Праз некаторы час усё вывучылася само, і ў час ігры стаў праяўляцца мой артыстызм, якому заўсёды вучыў сваіх вучняў, бо па іх ігры адразу можна сказаць, у каго вучацца. "Артыстычнасць не менш важная за музычнасць", — прачытаў некалі ў адной з метадычных прац для скрыпкі і потым на гэта звяртаў вялікую ўвагу.

Пасля нейкага ўдалага выступлення да мяне падышоў Кастусь Іосіфавіч і кажа:

— Скажыце, вы не жадаеце пайграць у Дзяржаўным калектыве пад кіраўніцтвам Г.І.Цітовіча. Нам зараз якраз патрэбны цымбаліст. На што я з удзячнасцю адказаў:

— Дзякуй за прапанову. У мяне ёсць работа.

Потым была яшчэ адна творчая заўвага. І толькі цяпер я мог бы ўсё зрабіць інакш.

На нейкім аглядзе мастацкай самадзейнасці было выступленне ансамбля песні і танца імя М.Агінскага ў Доме палітасветы ў Гродне. У час выступлення ансамбля мы з Альгердам Апановічам выходзілі з аркестра і гралі на цымбалах дуэтам. Для большай саліднасці чамусьці вырашыў іграць на фартэпіяна.

Маім пастаянным канцэртмайстрам была выкладчыца па класе вакалу Гродзенскага музычнага вучылішча Вера Давыдаўна Бэр. Яна магла выручыць мяне ў любы момант і таму пагадзілася на гэты раз. Фартэпіяна на гэтай маленькай сцэне не настройвалі, бо палітыкі на ім не ігралі, і было амаль на паўтона ніжэй. У гэтай сітуацыі мне трэба было прасіць прабачэння за турботы і адпусціць піяністку, якая іграла без суправаджэння, страціла палову прыгажосці і тэксту.

Спачатку мы зайгралі на дудках, потым загучалі цымбалы і далучылася фартэпіяна. Іграць і слухаць было проста немагчыма.

Пасля выступлення на сцэну прыбег усхваляваны К.І.Паплаўскі, махаў рукамі і крычаў:

— Як гэта Церабун, вопытны музыкант, не мог настроіць цымбалы.

За адзін нумар да выступлення апусціць строй у цымбал і за такі ж тэрмін падняць не зробіць ніводны маэстра нават са сталіцы.

— Ай-яй-яй. У мяне ледзь не здарылася расстройства страўніка, — з горыччу дадаў Кастусь Іосіфавіч.

Мы з ім ладзілі, добра разумелі і паважалі адзін аднаго, але чаго толькі не бывае ў творчым жыцці артыстаў.

Некалькі гадоў таму да мяне ў клас зайшла прывабная жанчына і сказала:

— Я з Мінска. Пішу пра К.І.Паплаўскага. Кіраўнік народнага ансамбля песні і танца "Спадчына" Маладзечанскага гарадскога Дома культуры, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Іосіф Фаміч Сушко накіраваў мяне да вас. Мне патрэбны ўспаміны і цікавыя фотаздымкі тых часоў.

З сямейнага альбома акуратна адклеіў усе лепшыя фатаграфіі і даў ёй. Праз некаторы час яна перадала, але не мае арыгіналы, а копіі.

Так ніхто не робіць, хоць рэпрадукцыі і добрай якасці. Я не шкадую. Дастойныя здымкі павінны служыць гісторыі, ды і Кастусь Іосіфавіч выдатны музыкант, і мае вучні не раз ігралі для яго арыгінальныя апрацоўкі для цымбалаў. Акрамя ўсяго гэтага, ён бацька ўсімі любімай Ядзі Паплаўскай і цесць Аляксандра Ціхановіча.

**Юрый ЦЕРАБУН.**

## Як зламаць стэрэатыпы?

**ВІЛЕЙКА. 16 чэрвеня адбылася прэзентацыя прадукцыі Вілейскага раённага спажывецкага таварыства. Галоўнае месца на ёй займалі ўзоры новых найменняў мясных паўфабрыкатаў і кілбас кілбаснага цэха Вілейскага УП КААП "Нарыхтпрам". Па словах старшыні Вілейскага РСТ Наталлі Дзянісаўны Прэпесць, прэзентацыя мела адной з мэтаў разбурыць стэрэатыпы аб недабраякаснасці прадукцыі Вілейскага мясакамбіната.**

На дадзены момант каля 50 % аб'ёму кілбас, якія рэалізуюцца ў раёне, завозяцца са Слуцкага і Барысаўскага мясакамбінатаў. Цяпер, падобна, з'явіліся абгрунтаваныя падставы чакаць зменаў у падзеле раённага мясного рынку паміж канкурэнтамі. Вілейскі мясакамбінат набыў новае абсталяванне, а напачатку месяца атрымаў ліцэнзію на выраб мясных паўфабрыкатаў. Менавіта таму стала магчымым паказаць на прэзентацыі агулам больш за 45 узораў мясных паўфабрыкатаў і кілбас.

Разам з мясной прадукцыяй былі на прэзентацыі напоі, макароны, воцат, салаты з марской капусты. Для паўнаты карціны аб вытворчых магчымасцях побач стаялі ўзоры тавараў рытуальных паслуг.

Прэзентацыя зрабіла добрае ўражанне на запрошаных загадчыкаў раённых і гарадскіх крамаў, работнікаў райвыканкома. Увогуле, пра складанае эканамічнае становішча і невысокую пакупніцкую здольнасць насельніцтва гаварыла толькі тое, што доля танных гатункаў кілбас і паўфабрыкатаў складае 75 – 80 % прадукцыі мясакамбіната.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ **ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ**



Вілейскія рабочыя з дарожна-будаўнічага ўпраўлення-13 асфальтуюць дарогу каля Краснага на Маладзечаншчыне.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

# Жыццё на дарозе

**МАЛАДЗЕЧНА. Гэтымі днямі ідзе рамонт аўтамабільнай дарогі Маладзечна–Мінск. Брыгада з 10 чалавек павінна заасфальтаваць 5 кіламетраў. Рабочыя Вілейскага дарожна-будаўнічага ўпраўлення №13, якія рамантуюць дарогу паблізу Краснага, кажуць, што якасць асфальту апошнім часам знізілася. Між тым, рамонт аднаго кіламетра дарогі каштуе не менш за 50 мільёнаў рублёў.**

Для рамонту трэба 7,5 тысячы тон асфальту. Штодня віляйчане працуюць па 10 гадзін і прасоўваюцца на 400-500 метраў. Дарога мае рэспубліканскае значэнне. Менавіта па ёй Аляксандр Лукашэнка прыязджае ў Маладзечна.

Год-два таму вілейскія рабочыя селі за руль новых машын для ўкладкі асфальту. Тэхніка беларускай і расійскай вытворчасці з нямецкай «начынкай». У спякоту ў іх высядзець цяжка. Кандыцыянер тут – адзіныня з двух бакоў акенцы. Гарачае ж надвор'е стаіць заўсёды. Бо тэмпература асфальту, які кладуць, +140-+160 градусаў.

Каб асфальт быў роўны і патрэбнай шчыльнасці, трэба 8-10 разоў праехаць каткамі рознай вагі, пачынаючы з лягчэйшага. Менавіта роўныя, без ямак дарогі спрыяюць зменшэнню аварыйнасці на дарогах. Выканальнік абавязкаў галоўнага інжынера Вілейскага дарожна-эксплуатацыйнага ўпраўлення-63 Дзмітрый Храмец неаднойчы быў сведкам здарэнняў.

Галалёд ды снег замінае руху ўзімку. Бывае, па некалькі сутак запар расчышчаем, гаворыць Дз.Храмец. Улетку ад смецця, якое з вокнаў машын кідаюць, пазбавіцца немагчыма. На пляцоўках для адпачынку ламаюць і крадуць павільёны, лаўкі. У час палявання «расстрэльваюць» дарожныя знакі. Дарэчы, самы танны каштуе не менш за 20 долараў.

Рабочыя скардзяцца, што на дарогах няма аніякай сувязі. Калі толькі па тэлеграфных слупах. «Хуткую» выклікаць ці патэлефанаваць дамоў немагчыма. Машыніст-укладчык ДБУ-13 Андрэй Дзяруга з дня на дзень бацькам стане і хоча першым даведацца аб папаўненні ў сям'і.

А пакуль рабочым толькі ссабойка нагадвае аб доме.

**Ірына РАБУШКА.**

### Курсы валют НБ РБ

| | 12.06 руб. | 19.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2050,00 | 2054,00 |
| Еўра | 2399,22 | 2416,43 |
| Злоты | 542,11 | 551,93 |
| Літ | 694,94 | 699,96 |
| Расійскі рубель | 67,18 | 67,61 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2035/2055 | 2045/2065 |

Маладзечна

### Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 11.06 | 18.06 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 12200 | 11980 |
| Сасіскі, 1 кг | 4300 | 4310 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Цукар, 1 кг | 1240 | 1240 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 800 | 800 |
| Алей, 1 л | 1550 | 1650 |
| Маянэз, 280 г | 460 | 450 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 800 | 750 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 680 | 650 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1200 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 1000 | 750 |
| Морква, 1 кг | 1300 | 1300 |
| Лімоны, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Апельсіны, 1 кг | 1850 | 1850 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4400 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1450 |
| Бульба, 1 вядро | 2500 | 2800 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1300 |



## ■ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## Казкі дзяцей Беларусі

**У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў зборнік "Казкі дзяцей Беларусі". Апрацоўка і укладанне — Міколы Чарняўскага, мастак — Я.Ларчанка.**

Сярод 64 казак дзяцей Беларусі ў зборнік увайшлі 4 казкі вучняў Камароўскай СШ Мядзельскага раёна. Гэта "Пралесачка і мураш" Наташы Відэйкі, "Чаму пчолкі паласатыя" Галі Малькевіч, "Тры лісточкі" Тані Позныш, "Жаба і Смоўжык" Вікі Драўніцкай.

З гэтай нагоды загадчыца Камароўскай сельскай бібліятэкі Марыя Анішчанка правяла прэзентацыю гэтага зборніка. У чытальную залу былі запрошаны юныя чытачы Камароўскай школы, перад якімі яна расказала пра зборнік казак і пазнаёміла з аўтарамі. Перад прысутнымі аўтары расказалі свае казкі. Выявілася шмат жадаючых прачытаць гэты зборнік.

У час гэтай імпрэзы члены лялечнага гуртка Мядзельскага Дома дзіцячай творчасці ў гонар юных аўтараў паставілі п'есу "Дзень добры, сонечнае лета" па метадычнай распрацоўцы Мядзельскай ЦРБ, змест якой быў сугучны са зместам казак зборніка. У пастаноўцы паказана, у якія беды трапляюць дзікія звяры з-за нядбайнасці людзей, што забруджваюць рознымі адходамі наваколле, калечаць жывых істот.

**Яська ДРАЎНІЦКІ, Камарова.**

# Моладзі — пра гераічных землякоў

**МЯДЗЕЛ. На Мядзельшчыне ідзе падрыхтоўка да святкавання 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Дня Перамогі. Раённы савет ветэранаў вайны і працы, музей народнай славы, раённы аддзел адукацыі правялі ў школах, установах культуры сустрэчы моладзі з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, дэманстрацыю слайд-фільма "Гераічная зямля і яе людзі" (поўнасцю прысвечаны падзеям на нарачанскай зямлі).**

На экране гледачы бачаць землякоў, якія не скарыліся ворагу, узяліся за зброю, былі сувязнымі, падпольшчыкамі. Вось партрэт Паўла Вераб'ёва, які ўцёк з палону з-пад Каўнаса, дайшоў да беларускай вёскі Азярцы галодным, змардаваным. У лесе выпадкова сустрэў маладога хлопца Анатоля Паследа, які прытуліў былога воіна ў сваёй хаце. Праз пэўны час Павел Вераб'ёў раздабыў зброю, рушыў на усход, каб перабрацца праз лінію фронту і зноў стаць воінам Чырвонай Арміі. Але ў ваколіцах Мінска сустрэў народных мсціўцаў, уліўся ў іх шарэнгі. Яго прызначылі камандзірам партызанскага атрада "Імя Камсамола". Пасля вайны Павел Вераб'ёў напісаў кнігу "Імя Камсамола". У ёй ёсць радкі пра тое, як жыхары Мядзельшчыны яшчэ ў 1941 годзе верылі ў разгром ворага, узяліся за зброю.

З экрана ў залу глядзіць маладая дзяўчына з вёскі Шчокаты Аня Пашкевіч. Перад вайной працавала настаўніцай у пачатковай школе на Пастаўшчыне. Разам з вясковай моладдзю купіла чырвоны сцяг камсамольскай арганізацыі, які потым, як пачалася вайна, схавала ад ворага і перадала партызанам атрада "Слава", сама працавала настаўніцай у партызанскай зоне, хадзіла ў разведку. Пра ўчынак нашай зямлячкі пісалася ў "Огоньку". Ёй прысвяціў аповесць "Калі пратрубілі трывогу" пісьменнік Вячаслаў Марозаў. Адначасова ў Мінску і Кіеве выйшла кніга, у якой расказваецца пра беларускіх і ўкраінскіх настаўнікаў, якія навучалі дзяцей у зямлянках, шалашах, у сялянскіх хатах у партызанскіх зонах.

Дэманструюцца слайды пра братоў Аляксандра і Фёдара Валасевічаў. Яны рамантавалі партызанам зброю, вырабілі 50 самаробных медалёў для партызанскай брыгады імя Ракасоўскага, што некаторы час дзейнічала на Мядзельшчыне і ў якой знаходзіўся Пётр Міронавіч Машэраў. Так як у нарачанскім краі партызаніла да 20 прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў былога СССР, медалі разышліся далёка-далёка. Ёсць у музеі ў Маскве, Мінску, Маладзечне. Пра братоў Валасевічаў пісаў часопіс "Огонёк".

На экране партрэт Максіма Танка ў вайсковай форме. У гэты час вучні дэкламуюць вершы земляка-франтавіка "Мы вернемся", "Маці", "Не шкадуйце, хлопцы, пораху" і інш.

Аляксей Валюк з вёскі Заўрукі. У 1941 годзе прыняў няроўны бой з нямецкімі захопнікамі на рацэ Бярэзіна. Цяжка параненым напісаў перадсмяротную запіску і паклаў у гільзу супрацьтанкавага патрона. Яе праз шмат гадоў знайшлі ў траншэі вучні Мінскай 130-й гімназіі. Пра подзвіг земляка пісалася ў часопісе "Беларусь", у газетах "Правда", "Известия". Імем Аляксея Валюка названа вуліца на яго радзіме. Максім Танк напісаў верш "Бой на Бярэзіне".

Дэманструюцца слайды пра землякоў — арганізатараў партызанскага руху на Мядзельшчыне, пра жанчын-сувязных, падпольшчыц. Напрыклад, 70-гадовая Анастасія Сямёновіч па просьбе літоўскіх партызан ездзіла ў Вільню за звесткамі ад падпольшчыкаў. Узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны. Пра жанчыну напісана ў кнізе "Людзі нарачанскага краю".

Гэта толькі некалькі эпізодаў са слайд-фільма.

У канцы мерапрыемства старшыня раённага савета ветэранаў вайны і працы Міхаіл Гардон перадаў школе раённую кнігу "Памяць" і папрасіў уручыць пераможцу конкурсу на тэму "Мой радавод".

Савет ветэранаў і раённы музей народнай славы падрыхтавалі для школ "Выказванні былых народных мсціўцаў з розных куткоў былога СССР пра дапамогу ў грозныя дні вайны".

Падрыхтаваны тэкст віктарыны з пытаннямі: "Хто за подзвіг на нарачанскай зямлі стаў Героем Савецкага Саюза?", "Ці ведаеце землякоў, якія кіравалі атрадамі, узводамі, былі палітрукамі?", "У якіх кнігах можна прачытаць пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны на Мядзельшчыне?", "Чыімі імёнамі названы вуліцы – удзельнікаў вайны, падпольшчыкаў?" і інш.

Гэта толькі пачатак карпатлівай работы па падрыхтоўцы да 60-годдзя Перамогі, 60-годдзя вызвалення Беларусі ад акупантаў.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ,**
**стваральнік слайд-фільма "Гераічная зямля і яе людзі", ветэран Вялікай Айчыннай вайны.**

**P.S.** Мерапрыемствы праведзены ў Занеўскай, Занарацкай, Свірскай, Пузырэўскай, Будслаўскай школах, у г.п.Мядзел і многіх іншых.



**Помнік ахвярам вайны ў маладзечанскім парку.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

# Рэха катастрофы ў Беластоцкім выступе

**У далёкім 1941 годзе заходняя граніца Беларусі ад Брэста ў бок Усходняй Прусіі выгіналася далёка на захад. Тут была Беластоцкая вобласць БССР. З вясны 1940 года туды паехала шмат нашых землякоў. Хто — па прызыву ў Чырвоную Армію, а каго мабілізавалі на будаўнічыя работы. "У Беластоцкі выступ, у Аўгустоўскія лясы", — так тлумачылі тады на Вілейшчыне.**

...Трагічным ранкам 22 чэрвеня 1941 года бязлітасны агонь абрушыўся на абаронцаў Беластоцкага выступу. І першыя ахвяры той вайны акрапілі зямлю гарачай крывёю, і амаль усе абаронцы заходняга фарпоста былога Саюза сустрэлі тут свой апошні час.

Вядомы нямецкі лётчык пікіруючага бамбардзіроўшчыка "Юнкерс-87" Рудэль так успамінаў пачатак вайны: "У 4 гадзіны раніцы 22 чэрвеня я чую па радыё: толькі што аб'яўлена аб вайне з Расіяй... Да вечара першага дня я здзейсніў чатыры вылеты да лініі фронту паміж Гроднам і Ваўкавыскам. Рускія прыгналі сюды вялізную колькасць танкаў і грузавых аўтамашын. Мы бачым галоўным чынам танкі "КВ-1", "КВ-2" і "Т-34"... Я заўважаю незлічоныя ўмацаванні уздоўж граніцы... на многія сотні кіламетраў. Мы ляцім над незакончанымі аэрадромамі... з мноствам бамбардзіроўшчыкаў "Марцін". Ім не хапае альбо паліва, альбо экіпажаў... Цяпер жа ўсяго за некалькі дзён усё гэта ператворыцца ў мора абломкаў" ("Огонек", №25 за 17.06.2002 г.). Мяркую, што ўбачанае вачыма нашага ворага ясна паказвае: баявыя танкі і самалёты СССР былі самымі сучаснымі, але зусім не падрыхтаванымі для адпору ворагу. А наступная цытата – відаць, з памыйнай ямы фашысцкай прапаганды: "Пралятаючы над гэтымі аэрадромамі і ўмацаваннямі, кожны разумеў: мы ўдарылі своечасова... Каб рускія завяршылі сваю падрыхтоўку, не было б ніякай надзеі іх спыніць". Відаць, немцам растлумачылі напад на СССР тым, што Савецкі Саюз быццам бы рыхтаваў удар па Германіі.

У гэтым напрамку ўдарыла нямецкая 9-я армія і 3 танкавыя групы з такой сілай, што "злучэнні 11 Чырвонай Арміі, рассечаныя на часткі, вымушаны былі з вялікімі стратамі спешна адступаць па "Каўнас і Вільнюс" ("ВАВ Савецкага Саюза" М-1965, стар. 61).

Як мы ведаем, у аўторак, 24 чэрвеня, у 17 гадзін з Вілейкі адышоў на ўсход апошні цягнік. А неўзабаве нямецкая бранятэхніка ўжо бразгатала па бруку нашых вуліц... Таму лёс абаронцаў і будаўнікоў Беластоцкага выступу быў трагічны: многія злажылі галовы ў першыя дні вайны, астатнія трапілі ў палон. Нямногім шчаслівым пашанцавала нейкім цудам выслізнуць з таго пекла, як Мікалаю Журыху з Кузьмічоў, які нават дабраўся дадому ("РГ", 27.09.2002 г.).

Грамадзянін Польшчы Валянцін Герасімюк з Гдыні ўспамінае: яго бацька Васіль Герасімюк, 1910 года нараджэння, у канцы красавіка 1941 года быў прызваны ў Чырвоную Армію ваенкаматам Бельска Падляскага. Разам з іншымі будаваў пагранічныя ўмацаванні і аэрадромы на "лініі Молатава", як яе называлі немцы. З ім служылі і жыхары навакольных беларускіх вёсак: Рыболы, Канюкі, Войшкі, Плёскі, Дзяніскі і іншых. Калі нямецкія бранятанкавыя калоны праходзілі ўжо праз Вілейку, там, на Беласточчыне, грымеў бой за мост праз пагранічную тады раку Нарэў. Гэтыя пазіцыі абаранялі байцы 25 матастралковага палка 25 танкавай дывізіі. Жорсткі бой працягваўся амаль тры дні. Салдаты стаялі насмерць. Акружаныя з усіх бакоў, не здаваліся. І амаль усе загінулі.

Немцы таксама панеслі значныя страты: трупамі сваіх салдат напоўнілі тры палаткі. Затым іх адвезлі на салдацкі могільнік 1-й сусветнай вайны ў Бельск Падляскі і там пахавалі.

Напярэдадні бою група чырвонаармейцаў завітала ў вёску Войшкі да Васіля Сяргеюка: пілі ваду, набралі з сабой. Яны сказалі Васілю, што тут будзе бой з немцамі. А двое паведамілі, што яны з вёскі Проневічы з-пад Бельска Падляскага. Назвалі сябе: адзін – Васілём Герасімюком, а другі – Васілём Васілеўскім.

Праз некалькі дзён пасля бою мясцовыя жыхары наведалі траншэі на беразе Нарэва. Там яны адшукалі астанкі каля 150-200 савецкіх салдат. Пазналі і тых хлопцаў, што прыходзілі да студні Васіля Сяргеюка. Усіх палеглых там жа і прысыпалі зямлёй. Канешне, там было і нямала нашых землякоў – салдат з нашага рэгіёну.

Адшукалі і адзінага параненага Аркадзія Фельдмана, што цудам не трапіў у лапы да немцаў. Ад яго і даведаліся аб падрабязнасцях таго бою. З вялікай рызыкай для ўласнага жыцця яго вылечылі. Затым А.Фельдман перабраўся за лінію фронту і з баямі дайшоў да Эльбы.

Сын загінуўшага ў тым баі Васіля Герасімюка Валянцін Васільевіч Герасімюк ужо шмат гадоў дабіваецца перапахаваць з пашанай на ваенны могільнік усіх, хто загінуў у тым баі. А жыхар вёскі Рыболы Мікола Ігнацюк ужо два дзесяцігоддзі захоўвае гранітны камень на помнік палеглым героям. Яму і яго сябрам, польскім беларусам, патрэбны прозвішчы, імёны і імёны па бацьку тых, хто загінуў 25-27 чэрвеня 1941 года ў Беластоцкім выступе, каб звесткі пра іх змясціць на чорным граніце памяці.

Там змагаліся і загінулі і жыхары нашага рэгіёну. Прашу ўсіх нашчадкаў палеглых на Беласточчыне ў канцы трагічнага чэрвеня 1941 года адгукнуцца і даслаць прозвішчы, імёны і імёны па бацьку і год нараджэння ахвяраў той бітвы на адрас: 222410, Наркевіч Аляксандр Іванавіч, Вілейка, вул. Кастрычніцкая, 32, кв. 37. Дапаможам гэтым добрасумленным нераўнадушным да бязмежнага людскога гора грамадзянам Польшчы ўвекавечыць памяць ахвяраў той жорсткай вайны. Чужога гора – не бывае.

У заключэнне дадам, што звесткі пра бой на рацэ Нарэў – з пісьма Валянціна Васільевіча Герасімюка з Гдыні, сына загінуўшага там Васіля Герасімюка.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**

■ КАРАТЭ



Выхаванцы маладзечанскага дзіцяча-юнацкага спартыўнага клуба «Сакура» разам са сваім трэнерам Сяргеем Хадасевічам.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

# Лепшыя з лепшых

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе прайшло адкрытае першынство па каратэ сярод 8-16-гадовых хлопчыкаў і дзяўчынак.**

У першынстве ўдзельнічалі 2 маладзечанскія спартыўныя клубы «Сакура» і «Буда», а таксама мінскі спартыўны клуб «Дынама-Арсенал». Спаборнічалі паміж сабой 50 спартсменаў. Па словах дырэктара дзіцяча-юнацкага спартыўнага клуба «Сакура» Сяргея Хадасевіча, усе дзеці былі аднолькава добра падрыхтаваныя і аказаліся моцнымі сапернікамі адзін аднаму.

**Табло**

| Прозвішча | Клуб | Узрост, група | Месца |
|---|---|---|---|
| Максім Вяль | «Сакура» | 10-11 гадоў, хлопчыкі | 1 (кумітэ) |
| Дзіма Кіслы | «Буда» | 10-11 гадоў, хлопчыкі | 1 (кумітэ) |
| Дзіма Кіслы | «Буда» | 10-11 гадоў, хлопчыкі | 1 (ката) |
| Ігар Шалуха | «Буда» | 12-13 гадоў, хлопчыкі | 1 (кумітэ) |
| Анжаліка Тону | «Сакура» | 14-15 гадоў, дзяўчынкі | 1 (кумітэ) |
| Міша Савельеў | «Буда» | 8-9 гадоў, хлопчыкі | 2 (кумітэ) |
| Вася Гладкі | «Сакура» | 10-11 гадоў, хлопчыкі | 2 (кумітэ) |
| Міша Ціхаміраў | «Сакура» | 10-11 гадоў, хлопчыкі | 2 (ката) |
| Лёша Аляксееў | «Сакура» | 10-11 гадоў, хлопчыкі | 2 (ката) |
| Наталля Цялюкіна | «Сакура» | 10-11 гадоў, хлопчыкі | 2 (кумітэ) |
| Дзяніс Навінскі | «Сакура» | 12-13 гадоў, хлопчыкі | 2 (кумітэ) |

Пераможцы, якія занялі 1-е і 2-е месцы, выйшлі ў фінальныя спаборніцтвы.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Абжываемся ў падвале

**14 чэрвеня. 1000 гледачоў. Суддзя Знайдзінскі. Маладзечна-2000 – Лакаматыў (Мінск) 0:0**

Склад: 1.Міхайлаў – 4.Дрозд, 3.Косак, 5.Сысой – 2.Маляўка (14.Лявончык, 62), 7.Якубоўскі, 9.Дараховіч (кап), 8.Альховік (13.Веташкін, 88), 6.Пазняк – 10.Альхавік (12.Макрыцкі, 75), 11.Кухлей

Пры дэфіцыце сур'ёзных пагроз перамагчы маглі і нашы, і госці. Напрыклад, быў небяспечным адзіны (!) за матч удар у створ варот "Лакаматыва" – стрэл Альхавіка здалёку выцягнуў з-пад перакладзіны галкіпер. Мінчане ў "рамку" білі тройчы, але два іх самыя вострыя моманты былі іншымі: на 5-й хвіліне яны ўтрох выйшлі на аднаго Міхайлава і прабілі міма, а ў сярэдзіне другога тайма ў таўкатні ў варатарскай запіхалі мяч ў сетку, аднак было зафіксавана парушэнне правілаў. Хвілін праз дваццаць мяч трапіў у руку іх абаронцы ў межах штрафной пасля ўдара Лявончыка. І тут арбітр не адважыўся пасадзейнічаць змяненню ліка, палічыўшы, што дзеянні мінчаніна былі ненаўмыснымі.

**18 чэрвеня. Ліда. 2400 гледачоў. Суддзя Чабыкін. Нёман (Гродна) – Маладзечна-2000 3:1 (1:1)**

Галы: Лукашоў (42), Кавалёнак (51), Радушка (73); Лявончык (4)

**14.06. Дарыда – Славія 2:2, Зорка-ВА-БДУ – Тарпеда (Ж) 1:0.**
**18.06. Шахцёр – Зорка-ВА-БДУ 9:0, Лакаматыў – Белшына 3:2, Славія – БАТЭ 0:7.**

1. Тарпеда-СКА ........ 21
2. Гомель ........ 21
3. Шахцёр ........ 17
4. БАТЭ (+1) ........ 17
5. Дынама (М) ........ 16
6. Тарпеда (Ж) ........ 15
7. Нафтан ........ 14
8. Нёман ........ 12
9. Дынама (Б) ........ 11
10. Лакаматыў (М) ........ 10
11. Белшына ........ 9
12. Дарыда ........ 8
13. Днепр-Трансмаш ........ 8
14. Славія ........ 6
15. Маладзечна-2000 (+1) . 6
16. Зорка-ВА-БДУ ........ 5

Бамбардзіры: Ю. Мархель (жодзінскае "Тарпеда") – 8, М. Цыгалка (мінскае "Дынама"), Стрыпейкіс (БАТЭ) – па 6...Альхавік – 3.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, КУБАК

## «Смаргонь» – «Маладзечна-2000»

Прайшла жараб'ёўка 1/16 фіналу. 9 жніўня ўпершыню ў гісторыі сустрэнуцца смаргонцы і маладзечанцы, а "Забудова" прыме чэмпіёна краіны барысаўскі БАТЭ. Смаргонь наведвалі брэсцкае "Дынама" (2000 г.) і мінскае "Тарпеда-МАЗ" (2001), а Чысць – віцебскі "Лакаматыў-96" (1999) і наваполацкі "Нафтан-Дэвон" (2000). Прайграўшымі аказаліся толькі нафтанаўцы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ФУТБОЛ, ВЫНІКІ

**10 чэрвеня. Ліда – СКЗ-ДЮСШ-2 0:0.**

**13 чэрвеня. Маладзечна-2000 (дубль) – Лакаматыў (Мінск, дубль) 1:2 (1:1).**

Галы: Крывіцкі (45-пен); (44), (53). Маладзечанскія дублёры забілі сёлета свой першы гол. На двары, між тым, ужо сярэдзіна чэрвеня. Дарэчы, у гэтым матчы з 15 прыняўшых удзел футбалістаў ажно 9 (ура!) былі мясцовымі, прычым 5 – 1986 г.н.

**17 чэрвеня. Шчучын. Нёман (Гродна, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 3:1 (Сідарэнка).**

■ АДЗІНАБОРСТВЫ

**МАЛАДЗЕЧНА. На прадстаўнічыя спаборніцтвы па рукапашнаму бою ездзілі чацвёра выхаванцаў клуба "Гладыятар".**

Першыя месцы сярод старэйшых юнакоў занялі Сяргей Кармазін (вага да 76 кг), які быў прызнаны лепшым байцом турніру, і Дзяніс Муха (72 кг).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНОНС

**20-22 чэрвеня. Маладзечна. Гарадошны стадыён.**

Заключныя дні першынства краіны сярод юнакоў. Кожны дзень пачатак з 10-00.

**21 чэрвеня. ЗЛіН (Гомель) – Смаргонь**

+0=0-2 0-4. Летась 0:2 дома і 0:2 на выездзе

**21 чэрвеня. 18-00. Забудова – Камунальнік (Жлобін)**

**24 чэрвеня. Верас (Нясвіж) – Забудова**

Гэты матч перанесены з 14-га чысла па прычыне ад'езду нясвіжцаў на турнір у Польшчу.

**25 чэрвеня. 17-00. Маладзечна-2000 (дубль) – Славія (Мазыр, дубль)**

+1=1-2 6-9. Летась 3:3 (Млечка – 2, Харэцкі) дома і 0:3 (тэхнічнае паражэнне за няяўку) на выездзе

**26 чэрвеня. 18-00. Маладзечна-2000 – Славія (Мазыр)**

+2=2-9 11-29. Летась 2:2 (Сідарэнка, аўтагол) дома і 0:3 на выездзе.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Упусцілі перамогу ў большасці

**15 чэрвеня. 3500 гледачоў. Суддзя Майстроў. Смаргонь – Камунальнік (Слонім) 1:1 (0:0)**

Галы: Валовік (54); Зюлеў (84)

Склад: 16.Шляхавой – 4.Курак, 19.Кашкар, 3.Трындзюк, 2.Мазалоўскі – 8.Дукса, 7.Карасёў, 10.Грабаздзін, 6.Кукалевіч (15.Жачко, 39) – 9.Дзігілевіч (17.Шырабокаў, 70), 11.Мяць (18.Валовік, 39)

Выдалены Місюк (Камунальнік) на 30-й хвіліне

Матч атрымаўся нервовым. На 12-й хвіліне актыўны нападаючы гасцей Місюк быў збіты Мазалоўскім метрах у дваццаці ад варот, а, пакуль слонімцы рыхтаваліся выканаць штрафны ўдар, Кукалевіч выбег са "сцэнкі" і выбіў мяч на чужую палову поля. На працягу матча гаспадары валодалі ініцыятывай, напрыклад, падалі 9 вуглавых супраць ніводнага ў гасцей. Прапусцілі ў падобнай сітуацыі ўжо напрыканцы гульні...

1. Хімік ........ 20
2. Лакаматыў (В) ........ 20
3. ЗЛіН ........ 19
4. МТЗ-РІПА ........ 19
5. Граніт ........ 18
6. Ведрыч-97 ........ 16
7. Вертыкаль ........ 14
8. Смаргонь ........ 13
9. Ліда ........ 13
10. Камунальнік ........ 13

Бамбардзір: Савельеў (ЗЛіН) – 9; Калодзін (Лакаматыў)–7... Валовік, Грабаздзін, Карасёў – па 3.

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

■ ЗЛЁТЫ

## У будучым – дыстанцыі дарожныя

**ВІЛЕЙКА. Дзевяты па ліку турыстычны злёт правялі навучэнцы Вілейскага ПТВ-48. Сёлета злёт быў прысвечаны памяці былога выхаванца вучылішча Сяргея Харужага, які потым працаваў тут майстарам вытворчага навучання і трагічна загінуў. Менавіта ён "заразіў" усіх цягай да турыстычных выпрабаванняў.**

Цяпер секцыяй турызму кіруе **Мікалай Багураў**. Карысную падтрымку аказвае выкладчык фізвыхавання **Уладзіслаў Вазянчук**.

Злёт зусім не стаў часам для адпачынку, наадварот, ішла сур'ёзная спартыўная работа. Было восем каманд з шасці чалавек, адна з іх – цалкам дзявочая. У першы дзень пераадолелі доўгую дыстанцыю ў 12 км з 9 кантрольнымі пунктамі з горада і да базавага лагера ва ўрочышчы Касута на беразе Вілейскага вадасховішча. На другі дзень было спартыўнае арыентаванне (5,5 км, 6 к/п) і азімутальнае арыентаванне, а таксама пляжныя гульні: футбол, валейбол. У заключны дзень - кароткая дыстанцыя з прыроднымі перашкодамі, напрыклад, воднымі, не заўсёды прыемнымі "працэдурамі". Была конкурсная праграма газет, самадзейнасці, афармлення лагера.

Тройку прызёраў у спартыўным заліку склалі групы нумар 305 (слесары па рамонту аўтамабіляў – вадзіцелі), 308 і 309 (абедзве групы электрагазазваршчыкаў – вадзіцеляў).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ГАРАДКІ

## Яснасці пакуль няма

Завяршыўся першы круг клубнага чэмпіянату. Тройка лідэраў акрэслена, але разрывы ў ачках зусім невялікія, бо яшчэ ў стартавым туры прадстаўнікі электрасетак згулялі ўнічыю з "Аўтасібам".

1 ліга. 15 чэрвеня. Бярозаўка. Нёман – МЭС 0,5:2,5. Мінск. Аўтасіб – Кэмпі 0,5:2,5, Кэмпі – Шахцёр 2:0.

1. **МЭС** ........ 13
2. **Кэмпі** ........ 12
3. Аўтасіб ........ 10
4. **Нёман** ........ 6
5. **СКА** ........ 3
6. Шахцёр ........ 0

Сваім трэцім месцам прадстаўнікі генеральнага спонсара чэмпіянату сталічнай фірмы "Аўтасіб" у многім абавязаны лідэру каманды Андрэю Гурыновічу. Ён, дарэчы, карэнны маладзечанец, а цяпер завяршае вучобу ў Мінскім медыцынскім універсітэце, будзе ваенным урачом. Калектыў "Кэмпі" вядзе за сабою чэмпіён Еўропы 1996 года ў асабістым заліку Аляксандр Яршэвіч. У складзе МЭСа прыбавіў у сваёй гульні Дзмітрый Шайко, напрыклад, ён выдатна сябе праявіў падчас апошняй выязной перамогі ў Бярозаўцы.

2 ліга. 15 чэрвеня. Маладзечна. Юнацтва – Камунальнік 2:1, Маладзечнамэбля – МАЗ 2:0, Маладзечнамэбля – Асіповічы 2:0.

1. **Маладзечнамэбля** ........ 13
2. Нёман-2 ........ 10
3. МАЗ ........ 9
4. Асіповічы ........ 6
5. **Юнацтва** ........ 6
6. Камунальнік ........ 0

Першы круг паказаў, што дэбютанты турніру з "Маладзечнамэблі", якія выступаюць у другой лізе, мацней за той жа "Шахцёр" з першай лігі.

Не выключана, што ў другім крузе ў правядзенні чэмпіянату адбудуцца пэўныя змены, так, магчыма, матчы будуць праводзіцца з пяці партый (да трох перамог).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

